У НУМАРЫ




# Ніва


БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 38 (812) ГОД XVI БЕЛАСТОК 19 ВЕРАСНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.




*Прыбужжа.* *Фота: Цаф — Сянько.*

## У Паўднёвым Востраве

1969 год прынёс сялянам Паўднёвага Вострава, што на Сакольшчыне, велізарныя перамены ў апрацоўцы зямлі. Закончылася тады камасацыя, якая ліквідавала вузенькія, некалькіметровыя загоны. Усе гаспадары ўпершыню сеялі жыта на шырокіх палетках. Ды сеялі ў асноўным не рукамі, не з каробкі, не з фартуха. Сеялі сеўнікамі, а пасля любаваліся, як прыгожа і роўненька, як у грэбяні, радочкамі яно ўзыходзіць. Камасацыя зямлі ў Востраве мела не меншае значэнне, чым электрыфікацыя вёскі ў пачатку шасцідзесятых гадоў. Дзякуючы камасацыі была выдзелена зямля з дзяржаўнага фонду.

Восенню 1969 года сельскагаспадарчы гурток на чале з Мішам Жамойдай вырашыў загаспадарыць 100 га зямлі з дзяржаўнага фонду. Атрымаў ён тады (дакладней, купіў) тры трактары з поўнымі камплектамі сельскагаспадарчых машын. І вось ад гэтага пачалося.

У наступным годзе гуртkоўцы ўзялі так званую Рахавіцкую зямлю, якой было там 96 га. І зноў купілі тры трактары і камбайн, а вясною гэтага года дабралі яшчэ 69 га і яшчэ павялічылі свой машынна-трактарны парк. Цяпер у Паўднёвым Востраве ёсць 9 трактараў, 2 камбайны, 3 малацільныя агрэгаты і шмат іншых машын. Вартасць іх акрэсліваецца сумай паўтара мільёна злотых.

Машыны гуртка і яго механізатары апрацоўваюць зямлю для ўсіх членаў і не членаў сельгасгуртка ў сваёй і суседніх вёсках. Трактарысты Паўднёвага Вострава адзначаюцца салідней і дакладнай работай. Асабліва многа пахвальных слоў чуецца ў вёсцы ў адрас Івана Кукліка і Федзі Каранецкага.

Члены сельгасгуртка, а перш за ўсё тыя, хто мае непасрэднае дачыненне да тэхнікі, сёлета добра папрацавалі. Жняяркі, снапавязалкі і камбайны працавалі не толькі ў дзень. Да позніх гадзін ночы ішла ўборка збожжа. І ў нядзелю працавалі. Сельгасгуртак закончыў жніва і абмалоты 17-га жніўня

Працяг на стар.4



*Міхась Жамойда.*




■ 28-га жніўня гурток БГКТ у Трасцянцы (Гайнаўскі павет) супольна з гурткамі ЗМВ-у і КГВ арганізавалі танцавальную вечарыну.

■ У беларускіх ліцэях у Бельску Падляшскім і Гайнаўцы 1-га верасня распачаўся новы навучальны год пад кіраўніцтвам новых дырэктараў. Бельскі ліцэй узначальвае Аляксей Карпюк, а Гайнаўскі — Уладзімір Сцепанюк.

■ У Міклашах калісьці існаваў гурток БГКТ. Але даўно ўжо выехала моладзь, якая належала да гуртка. 4-га верасня ізноў у Міклашах арганізаваўся гурток. Старшынёй яго з'яўляецца Мікалай Гонта, сакратар — Аля Рыбачук і скарбнік — Уладзімір Бобар.

■ 6-га верасня камісія культуры ГП БГКТ пад кіраўніцтвам намесніка старшыні камісіі Веры Валкавыцкай, абмеркавала правілы конкурсу-агляду на беларускую песню — 72. У паасобных асяроддзях і грамадах эліміінацыі на беларускую песню адбудуцца ў лістападзе і снежні, у аддзелах — у студзені і лютым, а фінальны канцэрт адбудзецца ў сакавіку ў Беластоку.

Камісія апрацавала таксама правілы конкурсу-агляду аматарскіх тэатральных калектываў з беларускім рэпертуарам. Эліміінацыі ў аддзелах будуць праведзены ў лютым і сакавіку, а фінальны агляд тэатральных калектываў у красавіку. Апрача таго, камісія абмеркавала праграмныя напрамкі дзейнасці на новы культурна-асветны год 1971/72.

■ Прэзідыум ГП на сваім пасяджэнні 7-га верасня разгледзеў наступныя пытанні: а) зацвердзіў даклад на пленум ГП, прысвечаны ролі і заданням гурткоў Беларускага таварыства, б) зацвердзіў правілы конкурсаў-аглядаў і праграмныя напрамкі дзейнасці ў новым культурна-асветным годзе, якія былі прадстаўлены камісіяй культуры ГП, в) разгледзеў кадравыя справы эстраднай групы «Лявоніха», г) пастанавіў звярнуцца да асветных улад адносна ўфундавання ў Беларускім ліцэі ў Бельску Падляшскім кабінета грамадзянскага выхавання імя Браніслава Тарашкевіча ў сувязі з 80-ай гадавінай з дня нараджэння, д) пастанавіў памяшканне ГП назваць «Домам беларускай культуры» і пасля заканчэння рамонта весці ў ім шырокую сістэматычную культурна-асветную работу, е) запрапанаваў пленуму ГП склад камісіі да падрыхтоўкі VII-га з'езда БГКТ у наступным складзе: Міхась Хмялеўскі (старшыня камісіі), Аляксандр Баршчэўскі (намеснік старшыні), Мікалай Гайдук (сакратар), Янка Зенюк, Уладзімір Юзвюк, Мікалай Матэйчык, Георгі Валкавыцкі, Аляксей Карпюк, Аляксандр Іванюк, Анатоль Мартыновіч, Аляксандр Хлябіч, Ліда Антонюк, Сяргей Лукашук, Іван Стрышко, Юрка Бусловіч, Вінцук Склубоўскі, Анна Красько, Аляксандр Мазалеўскі і Аляксандр Рафаловіч, ж) запрапанаваў пленуму ГП утварыць камітэт святкавання 90-ай гадавіны з дня нараджэння (у 1972 г.) Янкі Купалы і Якуба Коласа ў наступным складзе: Аляксандр Баршчэўскі (старшыня камітэта), Мікалай Гайдук, Віктар Швед, Мікалай Врублеўскі, Георгі Валкавыцкі, Сяргей Лукашук, Вераніка Леанюк, Аляксандр Каленік, Ніна Мушынская, Васіль Сакоўскі, Антаніна Куна і Сяргей Бароўскі.

■ Гурткі БГКТ у Семяноўцы, Луцэ, Тарнаполі, Навасадах і Новым Корніне (Гайнаўскі павет) аплацілі ўжо членскія складчыны за 1971 год.

■ На працягу месяца жніўня гарадскі гурток БГКТ у Гайнаўцы павялічыўся на 10 новых членаў. (мс)



*Фота Я. Цялушэцкі*




### НАРАЧ СПІЦЬ

Гушкала чоўны з турыстамі-дзецьмі,
Чарот малаціла,
прачнуўшыся ў пяць.
Чуеш?
У пушчы ўсхадзіліся ведзьмы...
Змрок наплывае.
Упору і спаць!
Адшліфавала — да бляску — каменне,
Абцалавала бераг і пляж,
Адпаласкала ніткі — праменне —
Запрацавалася, беднае...
Ляж!
Неба адразу масты залатыя
З колераў-сноў над табой навядзе.
І рыбакі да дзяўчат,
як святыя,
Пойдуць у Мядзел Стары па вадзе.
Ціха вяслуе дзяжурная поўня.
Дрэмле маторка.
Вясло не рыпіць.
З крыл кажана
апускаецца поўнач.
Не размаўляйце:
Возера спіць.

* * *

Сягаюць іскры, быццам спіцы.
Над рэчкай азалеў. Пара
Зноў задуменна прытуліцца
Шчакой да яснага кастра.
Цецерукі такуюць звычна.
І попел сыплецца з павек.
Я — самы што ні ёсць язычнік.
Я — першабытны чалавек.
Агню ружовага загадка.
Праз сон на полымя гляджу.
Як здань, самотная палатка
Стаіць на выпадак дажджу.
Не варухнецца ноч малая.
Трашчаць яловыя сукі.
Агонь гарыць, гарыць. Страляе.
І праз гады, і праз вякі.
І знічкі падаюць мяцежна,
Як слёзы ранніх капяжоў.
А месяц белы — бог начлежны —
Над галавою узышоў.

*Мар'ян Дукса*


Бюст др Ракавецкага ў холле амбулаторыі.


Урачысты момант названня раённай амбулаторыі ў Гайнаўцы імем доктара Ракавецкага. З прамовай выступае др Яраслаў Пухнарэвіч, дырэктар павятовай бальніцы.

# ПАМЯЦІ ЗАСЛУЖАНАГА ЛЕКАРА

Шэсць год таму назад памёр у Гайнаўцы ва ўзросце 87 год доктар Тадэуш Ракавецкі. Апошнія 40 год свайго жыцця лячыў ён безупынна жыхароў горада. У гадавіну смерці хачу прыпомніць Яго цёплую чалавечую постаць. Не быў Ён такі сабе звычайны правінцыянальны лекар. Быў добрым лекарам і дасканалым арганізатарам лячніцтва. У самыя цяжкія гады — спачатку ў час руска-японскай вайны (дыплом атрымаў у 1903 годзе), потым у першую вайну і ў гады адроджанай Польшчы, — заўсёды нёс людзям дапамогу.

У 1925 годзе пасяліўся ў Гайнаўцы. Тут сярод старых лясоў і простых людзей адчуваў сябе найлепш. Быў першым і доўгія гады адзіным лекарам у Гайнаўцы.

Пра сябе не дбаў. Нішто не магло яго паўстрымаць, калі хто клікаў на ратунак. У кожную пагоду, у кожную пару года, рознымі дарогамі ішоў з неадлучнай сумкай да хворых.

Не адна аднак медыцына займала багаты свет доктара. Займаўся яшчэ астраноміяй і ў гэтай галіне, хоць самавук дасягнуў узровень сусветны. Яго двухтомная праца з 1928 года «Дарогі планет і камет» адразу паставіла скромнага лекара ў радах знатнасцей. На яго звярнулі ўвагу вучоныя ў краіне і за мяжой. Доўгія гады гэтая праца служыла ў якасці ўніверсітэцкага падручніка па аблічэнню арбіт. Прыйшлі далейшыя кнігі (разам каля 20-ці), хоць меншыя, але ўсе арыгінальныя і наватарскія. Пісаў таксама па-французску і перапісваўся з заграніцнымі спецыялістамі. Быў членам Французскага астранамічнага таварыства. Львоўскі універсітэт прапанаваў доктару Ракавецкаму кафедру астраноміі. Ён аднак адмовіўся. Займаўся і літаратурай. Пару кніжак выдаў пра свайго любімага пісьменніка Жэромскага. Усё гэта рабіў як бы на баку. Галоўнае — сэрца сваё і любоў аддаў чалавеку.

Не пакінуў нічога. Не дбаў пра матэрыяльныя карысці. Быў вядомы ў павеце тым, што за візіты браў сімвалічна, па некалькі злотых, або і зусім нічога. Калі бачыў, што хвораму цяжка матэрыяльна, даваў яшчэ свае грошы.

Не дарабіўся ўласнага доміка. Жыў у нанятай кватэры. Калі 6 год таму назад памёр, застаўся па Ім толькі каштоўны астранамічны кнігазбор, які згодна з Яго воляй перайшоў на ўласнасць Польскага таварыства любіцеляў астраноміі.

Працаваў да смерці. Хворых прымаў нават лежачы ўжо ў ложку.

Прапанавалі Яму часта вышэйшыя пасады, а Ён назаўсёды пакахаў Гайнаўку. Цікавіўся тут нашым грамадскім жыццём, дапамагаў не толькі хворым, але сэрцам уражлівым памагаў усім. Цаніў чалавека і любіў чалавека. Сам быў узорам чалавека. Сярод сваіх супрацоўнікаў пашыраў перакананне аб неабходнасці цеснай сувязі лекара з грамадствам. Цікавіўся кожным пацыентам як чалавекам, а не толькі яго хваробай.

Скромнасць яго пераходзіла ўсе граніцы. Калі гарадская рада нарадовая выстаралася Яму Залаты крыж заслугі, то толькі з вялікім намаганнем жонка яго, пані Пелагея, і круг блізкіх сяброў змаглі намовіць яго прыйсці на ўрачыстае ўручэнне адзначэння.

Такое жыццё, як жыццё доктара Ракавецкага не праміна разам са смерцю. Працягваецца яно ва ўдзячнай памяці людзей, як узор для наследавання.

У светлую памяць доктару з Гайнаўкі новая раённая амбулаторыя названа Яго імем. У галоўным холле амбулаторыі стаіць бюст доктара. Разьба па дрэве выканана ў час мінулагодняга пленера разбяроў, якія ў ліпені і жніўні штогод адбываецца ў Гайнаўцы.

*Кастусь Ляшчынскі*

# Юбілей „Газеты Беластоцкай"

«Газеце Беластоцкай» 20 год. Першы нумар выйшаў 1 верасня 1951 года. Ад таго часу на працягу 20 год яна штодзённа рана тысячамі экземпляраў ішла ў людзі — у гарады і вёскі. Друкуецца «Газета» ўначы, каб паспець ужо на досвітку ўсімі сродкамі транспарту даехаць у самыя аддаленыя куткі вялікага Беластоцкага ваяводства.

Тыраж «Газеты» рос разам з яе папулярнасцю, разам з яе кадрамі, каб у юбілейным годзе 1971 дайсці да 116,5 тыс. Гэта многа, але не заспакойвае патрэб. Тыраж, на жаль, лімітаваны.

«Газета Беластоцкая» з'яўляецца органам Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку, а яе выдавец — Беластоцкае прэсавае выдавецтва РСВ «Прэса», тое што «Нівы» і «Кантрастаў».

«Газета Беластоцкая» — адзіны дзённік у ваяводстве і найстарэйшая газета. Рэдакцыя змяшчаецца ў Беластоку на вуліцы Весялоўскага 1, разам з намі.

Нашы калегі — журналісты з «Газеты» займаюць увесь другі паверх будынку. Людзі яны сімпатычныя, сардэчныя, уражлівыя на клопаты людскія, смела абнажаючыя ўсе недахопы нашага жыцця — абыякавасць, бюракратызм, несумленнасць. Стаяць заўсёды за справядлівасць і лад. Баяцца іхняй крытыкі ўсе, хто хоча лёгка і без працы пражыць жыццё. Вельмі многія журналісты «Газеты» здабылі першыя ўзнагароды ў розных публіцыстычных агульнапольскіх конкурсах. Некаторыя выдалі ўласныя кніжкі — Рышард Красько, Аляксандр Амільяновіч, Генрык Вільк, Станіслаў Сверад, кніжкі некаторых падрыхтаваны да друку — Анны Зарэмбіны, Агнешкі Свідзінскай. Усе нашы калегі з «Газеты» вядомы як актыўныя грамадскія дзеячы, голас якіх лічыцца ў жыцці горада і ваяводства.

«Газета» славіцца ў краіне сваёй ініцыятывай, рознымі акцыямі, конкурсамі. Папулярызуе яна добрую работу, актыўных працавітых людзей, змагаецца за чысціню і эстэтыку гарадоў і вёсак, прапагандуе культуру і спорт. Вядома таксама з папулярызацыі традыцый Беластоцкай зямлі, яе багатай і разнароднай культурнай спадчыны, згоднага сужыцця розных нацыянальных груп з польскім насельніцтвам, багатай супольнай барацьбы за Польшчу прагрэсіўную, вольную і сацыялістычную. Асаблівасцю «Газеты» з'яўляецца тое, што яна перадае цікавы вобраз жыцця і працы найбольшай на Беласточчыне нацыянальнай групы — беларусаў, паказвае іх грамадскі і гаспадарчы рост і працу іх для дабра Айчыны. Частым госцем на старонках «Газеты» з'яўляецца Беларускае таварыства і «Ніва» з іх шырокай праблематыкай. Як цікаўнасць падаем, што радавод некаторых журналістаў «Нівы» вядзецца з «Газеты», як і наадварот.

«Газета Беластоцкая» праводзіць звыш 500 інтэрвенцый у месяц, атрымлівае звыш 100 лістаў у дзень.

Журналістаў у «Газеце» 33. Працуюць яны ў наступных аддзелах: сельскагаспадарчым, грамадска-палітычным, культуры і асветы, эканамічным, сувязі з чытачамі, спартыўным, дэпешова-тэхнічным.

Галоўным рэдактарам «Газеты Беластоцкай» ужо 15 год з'яўляецца Казімір Новак.

Калектыў «Газеты» выпрабаваны верны, здольны. Хоць газетчыкаў з 20-гадовым стажам толькі трое, дык усяго на пару год менш працуе палова журналістаў. Цікава, што другая палова гэта людзі маладыя з іх невычэрпнай энергіяй.

22 ліпеня 1971 года, у сувязі з пераходам у новую друкарню, «Газета Беластоцкая» змяніла свой фармат на большы. Рэдагуецца яна цікава і вобразна. У агульнапольскай ацэнцы ўсіх ваяводскіх дзённікаў займае адно з першых месц.

У 20-годдзе «Газеты Беластоцкай» усяму калектыву рэдакцыі складаем братэрскія віншаванні і пажаданні добрай работы на наступныя дваццаць год.

*Вера Леўчук*

**Беларусіяна**

## БЕЛАРУСКІЯ ВЕРШЫ

Пад такім загалоўкам неўзабаве выйдзе з друку анталогія беларускай паэзіі дваццатага стагоддзя ў перакладзе на польскую мову. Анталогію выдае Лодзінскае выдавецтва, а рэдактарам яе з'яўляецца вядомы польскі паэт, вялікі сімпатык беларускай культуры Ян Гушча.

Лодзінскі грамадска-культурны часопіс «Одглосы» за 29 жніўня г.г. змясціў цэлую старонку беларускіх вершаў з гэтай анталогіі. Надрукаваны тут вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, Сяргея Дзяргая, Максіма Лужаніна, Уладзіміра Караткевіча, Ніла Гілевіча і Сцяпана Гаўрусёва. Перакладчыкамі іх з'яўляюцца: Ян Гушча, Ежы Путрамент, Леапольд Левін, Мацей Канановіч, Мечыслаў Шарган і Тадэвуш Хрусцілеўскі. (рл)




# Аб беларускай ЭТНАГРАФІІ

У канцы мінулага года выйшла ў Мінску, але толькі пад канец жніўня гэтага года трапіла ў «Дом Кнігі» ў Беластоку даследванне В. К. Бандарчыка «*Гісторыя беларускай этнаграфіі*. Пачатак XX стагоддзя»[1]). Як паведамляе ва ўступе да яго сам аўтар «праца ахоплівае невялікі адрэзак часу (з 1900 па 1914 г.) і з'яўляецца арганічным працягам папярэдняй кніжкі гэтага ж аўтара — «Гісторыі беларускай этнаграфіі XIX ст.» (Мінск, 1964).

Ва ўступе да працы аўтар падкрэслівае, што «этнаграфічная навука аказала дабратворны ўплыў на культурнае жыццё Беларусі, садзейнічала развіццю беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі і наогул спрыяла росту самасвядомасці беларускага народа. На глебе этнаграфічнага вывучэння ўмацоўваліся агульнаславянскія культурныя сувязі, і ў прыватнасці руска-беларуска-польскія». Першы раздзел кнігі аўтар прысвяціў аналізу асноўных тэндэнцый развіцця беларускай этнаграфіі эпохі імперыялізму (90-я гады XIX — пачатак XX ст.), падкрэсліваючы, што гэта быў час, калі краязнаўства ахоплівала шырокія колы беларускай інтэлігенцыі, а «беларускія пісьменнікі Я. Купала, Я. Колас, Цётка (А. Пашкевіч), Ц. Гартны і многія іншыя бралі матэрыялы да сваіх твораў непасрэдна з жыцця народа. Яны збіралі і запісвалі фальклорныя творы і этнаграфічныя матэрыялы». Выключна вялікую ролю ў збіранні і апрацоўцы беларускіх этнаграфічных матэрыялаў у той час адыграў Паўночна-заходні аддзел Рускага геаграфічнага таварыства, які быў заснаваны ў Вільні 16 студзеня 1910 г. і ўжо пад канец 1911 года меў у сваім складзе 305 чалавек, пераважна настаўнікаў, якія працавалі ў розных кутках Беларусі. Аснову працы складае трэці яе раздзел: «Дзейнасць беларускіх вучоных па збіранню, публікацыі і даследванню этнаграфічных матэрыялаў». У ім пасля кароткіх уводзін В. Бандарчык разглядае дзейнасць на ніве беларускай этнаграфіі Е. Р. Раманава, А. К. Сержпутоўскага, І. А. Сербава, Я. Ф. Карскага ў перыяд 1900—1914 г.г. У наступным раздзеле робіць агляд этнаграфічных прац іншых даследчыкаў Беларусі (П. В. Шэйна, М. Я. Нікіфароўскага, У. М. Дабравольскага і шэрагу іншых). Можам толькі шкадаваць, што постаць вядомага польскага фальклырыста М. Федароўскага не атрымала ў аўтара працы такога ж месца, як А. К. Сержпутоўскі ці І. А. Сербаў. М. Федароўскаму па праву належыцца пачэснае месца ў кагорце выдатных этнографаў, якія займаліся Беларуссю ў канцы XIX і першай чвэрці XX стагоддзяў. І зацікаўленыя дзейнасцю М. Федароўскага будуць вымушаны звярнуцца да VII тому «Люду беларускага», які выйшаў пад рэдакцыяй праф. др А. Абрэмбскай-Яблонскай у Варшаве ў 1969 годзе[2]) і ў якім усебакова разглядаецца збіральніцкая і навуковая спадчына па выдатным фальклырысце. У заключэнні сваёй працы В. К. Бандарчык, падсумоўваючы вынікі даследвання, падкрэслівае, што калі ў першым дзесяцігоддзі XX ст. беларуская этнаграфія развівалася паспяхова, то «ў другім дзесяцігоддзі XX ст. рамкі этнаграфічных даследванняў звужваюцца. Царызм імкнецца заглушыць краязнаўчы рух, які садзейнічаў росту нацыянальна-вызваленчай барацьбы». Аддаючы належнае гістарычнай ролі, якую адыгралі этнографы Беларусі, аўтар сцвярджае, што «яны адлюстроўвалі шматграннае яго (беларускага народа — М.Г.) жыццё, багацце народнай вуснапаэтычнай творчасці і гэтым абвяргалі антынавуковыя погляды на беларуса, ставілі яго ў адзін рад з іншымі народамі свету».

Праца В. К. Бандарчыка з'яўляецца цэнным укладам у паглыбленне нашых ведаў аб беларускай этнаграфіі. (мг)

---

[1]) *Бандарчык В. К., Гісторыя беларускай этнаграфіі. Пачатак XX ст., Мінск, 1970.*

[2]) *Federowski M., Lud Białoruski. Tom VII. Suplement. Варшава, 1969.*

 

## За новы ўраджай

Народная пагаворка кажа: «Колас наліваецца з восені». І сапраўды, менавіта восенню закладаецца трывалая аснова будучага ўраджаю. Залежыць ён не толькі ад спрыяльнага надвор'я, але і ад добрай падрыхтоўкі глебы, ад яе ўгноенасці і вельмі многа ад сяўбы высокаякасным насеннем. А высокаякасным насеннем забяспечваюць гаспадароў і сельскагаспадарчыя гурткі насенныя цэнтралі.

Насенная цэнтраля ў Бельску Падляшскім падрыхтавала шмат жыта і пшаніцы перспектыўных высокаўраджайных сартоў. Яна абслугоўвае два паветы — Бельскі і Гайнаўскі. Насенная цэнтраля даставіла шмат высокаякаснага насення ў ГС-ы. І так, Орля атрымала 104 тоны, Нарва — 204 тоны, Нараўка — 74 тоны, Белавежа — 45, Кляшчэлі — 66 і Гайнаўка — 167.

Апрача ГС-аў, упершыню ў бягучым годзе насенная цэнтраля дастаўляе насенне ў спецыяльныя камісійныя пункты ў сельскагаспадарчых гуртках. Гэта выгадна для сялян, таму што такім чынам эканомяць яны шмат каштоўнага часу.

Бельская насенная цэнтраля вядзе таксама шырока абмен збожжа на высокаякаснае азімае насенне. Абменам ахоплены такія грамады, як Бранск, Даманова, Галёнкі, Снежкі і Грыгараўцы.

Вельмі важнай справай з'яўляецца запраўка насення спецыяльнымі хімічнымі субстанцыямі, якія прыдаюць яму высокія пасяўныя якасці. Цяпер не прымітыўным спосабам запраўляецца насенне, не размешваецца парашок кіем. Цяпер запраўка насення механізавана. У Катлах і Праневічах абсталяваны электрычныя венгерскія запраўкі, прадуктыўнасць якіх 2 1/2 тоны на гадзіну. І яны шырока выкарыстоўваюцца сялянамі, якія ўжо разумеюць, што належна падрыхтаванае насенне з'яўляецца залатым фондам ураджаю.

Варта падкрэсліць і тое, што сельскагаспадарчая служба актыўна змагаецца за тое, каб сяўбу азімых правесці на высокім агратэхнічным узроўні. (мх)



*Волька, Бельскі павет.* *Фота Цаф — Сянько.*

Пачатак на стар. 1

## У Паўднёвым Востраве

першы ў павеце. У гэты вечар адбылася ў хаце прэзаса і дыспетчара ў адной асобе дажынкавая ўрачыстасць.

Ураджай, як на ўмовы Паўднёвага Вострава, быў даволі высокі. З засеяных 90 га жыта атрымалі па 20 цэнтнераў, ячменю з аднаго га па 22 цэнтнеры, аўса па 22 цэнтнеры і пшаніцы — па 18 цэнтнераў. Грэчка, якая яшчэ не даспела (яе 18 га), таксама добра ўрадзіла. Гурток меў 240 га закантрактаванага збожжа. Як сцвярджала кіраўніцтва сельгасгуртка, за збожжа, прададзена дзяржаве, атрымаюць яны больш мільёна злотых.

Добрая гаспадарчая дзейнасць гуртка і разумнае кіраванне яго працай заўважаецца жыхарамі вёсак. Сяляне Новага Вострава і Сасновіка, якія мелі свой гурток і ў якім не ладзілася работа, пастанавілі далучыцца да сельгасгуртка ў Паўднёвым Востраве. Гэты факт не патрабуе каментарыяў. Ён гаворыць сам за сябе. Зараз усе гуртkоўцы, а налічваецца іх больш 100, рыхтуюцца да пасяўной кампаніі азімых. Зямля ўжо падрыхтавана. Яна не толькі заворана. Яна таксама ачышчана ад каменняў. На 120 га будзе засеяна жыта, а на 20 га — пшаніца.

Гуртkоўцы пераканаліся, што добры ўплыў на ўраджай мае не толькі належнае мінеральнае ўгнаенне, але таксама і вапнаванне глебы. І таму па жытняй пожні на плошчы 100 гектараў рассеяна ўжо вапна.

Сельскагаспадарчы гурток ў Паўднёвым Востраве залічаецца да аднаго з лепшых у Сакольскім павеце. Кожны год ён выпрацоўвае шмат чыстага даходу. У мінулым годзе было яго 120 тысяч зл., а ў гэтым годзе, паводле меркавання кіраўніцтва гуртка, будзе значна перакрочана сума 200 тыс. зл.

Члены праўлення гуртка, з'яўляюцца імі прэзас і дыспетчар Міша Жамойда, сакратар Міша Пракапюк, скарбнік — Толік Хмялеўскі, старшыня рэвізійнай камісіі Генік Жамойда і кіраўнік загаспадарвання калектыўнай зямлі Уладак Хомчык, згодна, калегіяльна і разумна працуюць. Усе яны з'яўляюцца членамі гуртка Беларускага таварыства.

*М. Хмялеўскі*

*Фота Цаф — Савіцкі*



## Новае ў Новай Волі

Вёска Новая Воля з'яўляецца адной з найбольшых вёсак у Беластоцкім павеце. Налічвае яна больш 160 сялянскіх гаспадарак. Яе жыхары, дзякуючы заангажаванай паставе, самі вырашылі многа важных для вёскі спраў і праблем. За гады народнай улады пабудавана тут новая школа і новыя даязныя дарогі, праведзена электрыфікацыя, загаспадараны супольныя выганы, а зараз паспяхова загаспадароўваюцца зямельныя ўгоддзі з дзяржаўнага фонду зямлі.

Вёска Новая Воля, якая налічвае 700 жыхароў, не мае крамы. Кіёск са спажывецкімі таварамі не вырашае справы, і жыхары вымушаны купляць у крамах, у другіх мясцовасцях.

Іншай справай вёскі Новая Воля з'яўляецца пракладка ходнікаў. Сяляне абавязаліся прывезці пясок, ходнікавыя пліткі і нават дапамагчы пры пракладцы ходнікаў. Як да гэтых спраў аднесліся ўлады ГРН у Міхалове?

Адносна крамы варта адзначыць, што супольнымі намаганнямі ўлад ГС і саміх нававольцаў пабудаваны падмурак. Зараз ГС шукае патрэбнай для будаўніцтва драўлянай тарціны. Адносна ходнікаў: звезена ўжо амаль палавіна ўсіх патрэбных ходнікавых плітак. Можна будзе пачынаць іх пракладку.

Справай гэтай моцна зацікаўлены аддзел камунальнай гаспадаркі ў Беластоку. Можна ўжо цяпер быць упэўненым, што ходнікі будуць. Можна быць таксама ўпэўненым і ў тым, што жыхары Новай Волі кожную ініцыятыву на карысць сваёй вёскі падтрымаюць грамадскім чынам. (яц)

## Ці ведаеце, што...

...у чэрвені г.г. было зарэгістраваных у нашай краіне 4487 тысяч тэлевізараў. У гарадах было іх 3288 тысяч, а на вёсцы — 1198 тысяч.

...арганізацыя ПЦК у Беластоцкім ваяводстве налічвае 194,5 тысяч асоб, згуртаваных у 2851 гуртках. На вёсцы дзейнічае зараз 2088 гурткоў ПЦК.

...у Беластоцкім ваяводстве знаходзіцца запаведнік прыроды Чырвонае Багно. З'яўляецца ён каралеўствам ласёў. Звяроў гэтых маем зараз 400. Бабёр захаваўся ў такіх запаведніках, як Марыха, Стары Фольварк, Законты, Бобручэк і Барташы.

...у Беластоцкім павеце дзейнічае зараз 111 гурткоў ЗСЛ з колькасцю 1390 членаў, у тым ліку 305 жанчын.

...у Беластоцкім павеце існуе 23 КГВ з колькасцю 4013 жанчын. (яц)

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

## Перыяд Вялікага княства Літоўскага

### ДРУКАРЫ І АСВЕТНІКІ — ЧАСТКА VI

Пётр Мсціславец і Іван Фёдараў. Кім былі па нацыянальнаму паходжанню гэтыя два дзеячы — друкары, сказаць цяжка. Некаторыя даследчыкі выказваюць думку, што прынамсі адзін з іх — Пётр Мсціславец быў беларусам. Магчыма. Ёсць і такія гісторыкі, якія думаюць, што Пётр Мсціславец і Іван Фёдараў працавалі ў друкарні Скарыны. На жаль, не ведаем ніякіх канкрэтных фактаў, якія пацвярджалі б гэтую думку. Мы не будзем займацца гіпатэтычнымі сцверджаннямі даследчыкаў адносна біяграфій Фёдарава і Мсціслаўца і зоймемся толькі тымі фактамі з жыцця гэтых дзеячоў, якія поўнасцю высветлены.

І так, Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец, абапіраючыся на друкарскую практыку Скарыны, прыступілі да арганізацыі друкарні ў Маскве. Выдалі яны ў 1564 годзе «Апостала», даючы такім чынам пачатак рускаму кнігадрукаванню. Са сказанага відаць, што беларускае кнігадрукаванне (1517 г. у Празе і 1525 г. у Вільні) на 47 і 39 гадоў апярэдзіла друк рускі. Надрукаванне «Апостала» не прынесла Фёдараву і Мсціслаўцу ні славы, ні павbooжання. Маскоўскія манахі-перапісчыкі ўбачылі ў дзейнасці друкароў пагрозу для сваёй манаполіі ў галіне прадукцыі кніжкі і таму падбухторылі прымітыўны вулічны натоўп. Маскоўская чэрнь, перакананая ў сувязях друкароў з нячыстай сілай, напала на друкарню Фёдарава і Мсціслаўца і знішчыла яе. У такой сітуацыі друкары былі прымушаны ўцякаць з Маскоўскай Русі на захад. Уцяклі ў Беларусь. Знайшлі прытулак у нашым Заблудаве каля Беластока. Заапекаваўся друкарамі мясцовы магнат Рыгор Хадкевіч, які быў у той час гарачым прыхільнікам праваслаўя. Факт гэты меў месца ў 1566 годзе. Праз тры гады маскоўскія друкары выдалі ў Заблудаве «Евангеліе учітельное». Хадкевіч — мецэнат друкароў і фундатар кнігі напісаў, што першапачаткова намерваўся выдаць гэтую кнігу на беларускай мове, аднак «мудрыя людзі» пераканалі яго ў патрэбе перакладу «Евангелія» на стараславянскую мову і ён пайшоў за радай гэтых людзей. Кім былі гэтыя «мудрыя людзі», сказаць цяжка. Быць можа, што Фёдараву і Мсціслаўцу стараславянская мова была больш зручнай, чым мова беларуская. Быць можа, што некія высокапастаўленыя прадстаўнікі тагачаснай праваслаўнай царквы пераканалі Хадкевіча ў перавазе мовы стараславянскай над беларускай. Такая думка здаецца найбольш вярыгоднай. У сувязі з тым, што староннікі рэфармацыі карысталіся перш за ўсё з народнай мовы, праваслаўная царква была схільна ў кожнай спробе ўвядзення гэтай мовы ў рэлігійную літаратуру бачыць праяў ерасі. Найбольш тыповым прадстаўніком такога погляду быў рускі князь Андрэй Курбскі, які падчас польска-рускай вайны перайшоў на польскі бок з прычыны сваёй варожасці да Івана Грознага. Курбскі, яры прыхільнік праваслаўя, між іншым, рашуча атакаваў «Біблію» Скарыны, трактуючы яе як твор пратэстанцкі: Досыць цяжка сказаць, ці Фёдараў і Мсціславец або Хадкевіч заставаліся пад уплывам Курбскага. З другога боку, аднак, нельга выключыць такі ўплыў. Так ці інакш, «Евангеліе учітельное» было выдадзена на стараславянскай мове і быў такім чынам пастаўлены бар'ер для разумення гэтай кнігі простым чалавекам.

Пасля выхаду ў свет «Евангелія», з бліжэй невядомых прычын Мсціславец пакінуў Заблудаў і накіраваўся ў Вільню. У гэтым горадзе пачыналі развіваць выдавецкую дзейнасць браты Лукаш і Кузьма Мамонічы. Якраз да іх і паехаў Мсціславец. Тым часам Фёдараў заставаўся ў Заблудаве і прадаўжаў друкаваць кнігі. Вынікам яго дзейнасці былі рэлігійныя кнігі: «Псалтыр» і «Часасловец», якія былі надрукаваны ў 1570 годзе. Год гэты замыкаў канчаткова друкарскую дзейнасць у Заблудаве. Чаму? Адказ не лёгкі. Сам Фёдараў пазней напіша, што прычынай упадку друкарства ў Заблудаве была старасць Хадкевіча. Трэба аднак прызнаць рацыю тым даследчыкам, якія не згаджаюцца з думкай Фёдарава і ў факце спынення друкарства бачаць палітычныя прычыны. Даследчыкі гэтыя факт ліквідацыі друкарні ў Заблудаве звязваюць з Люблінскай уніяй (1569 год), якая ліквідавала рэшткі незалежнасці Вялікага княства Літоўскага. Хадкевіч быў палымяным абаронцам незалежнасці княства. Праваслаўе было для князя сінонімам гэтай незалежнасці. У сувязі з тым, што Люблінская унія нанесла канчатковы ўдар па прыхільніках незалежнасці, ім пагражала палітычная і маральная дыскрымінацыя. Перад Хадкевічам і многімі яму падобнымі паўстала пытанне: бараніць даўнія прынцыпы і страціць палітычную пазіцыю ў краіне, ці перайсці ў лагер прыхільнікаў поўнага аб'яднання з Рэчыпаспалітай і захаваць усе правы і пазіцыі. Большасць беларускіх магнатаў выбрала другі выхад. Сярод іх знайшоўся і Хадкевіч. Зразумела, што ў такіх абставінах небяспечнай недалікатнасцю было б выдаванне праваслаўных кніг. Таму, відаць, Хадкевіч закрыў сваю друкарню. Розум і тактыка перамаглі сэрца і патрэбы народу.



 

 



*У няозелю.* *Фота Цаф — Савіцкі.*

# Філамацкі парыў на Беласточчыне

## Падзеі ў Бранску

У канцы лістапада ст. ст. 1825 года на Літве даведаліся аб смерці цара Аляксандра I. Спрэчныя весткі хадзілі па людзях. У Таварыстве прыяцеляў вайсковых аж кішэла ад дыскусій і гарачых нарад. На сходах абмяркоўваліся манархічная і канстытуцыйная формы ўрада, аддавалася аднак перавага апошнім. Рэспубліканскае ўпраўленне яны, як і дзекабрысты, лічылі найбольшым дабрадзействам для краіны. Было вырашана дамагацца канстытуцыі і дзейнічаць паводле інструкцый, якія былі разасланы некаторым афіцэрам Літоўскага корпуса рускімі таварыствамі.

21 снежня, у тыдзень пасля здарэнняў на Сенацкай плошчы, уцякаючы са сталіцы дзекабрыст Вільгельм Кюхельбекер перадаў цераз пасланца ліст да Таварыства прыяцеляў вайсковых. У лісце коратка былі апісаны апошнія падзеі ў Пецярбургу, якія адбыліся пасля атрымання весткі аб смерці цара Аляксандра I. Запэўнівалася таксама, што ўся армія стала на баку правага наследніка царэвіча Канстанціна і пастанавіла адмовіцца ад прысягі на вернасць Мікалаю.

Атрымаўшы гэты ліст і параіўшыся з таварышамі, Ігельстром ездзіў у розныя палкі, што размясціліся ў ваколіцах Беластока, агітуючы ўсюды, каб складалі прысягу на вернасць Канстанціну. Доўгую размову правёў ён, між іншым, з малодшымі афіцэрамі і радавымі свайго батальёна, які стаяў у Бранску.

На наступны дзень, 24 снежня, перад самым святам, мела там адбыцца прысяга на вернасць Мікалаю I. Малая падляшская мясціна мела магчымасць убачыць рэдкую ўрачыстасць. Батальён піянераў, апрануты па-святочнаму, выступіў на рынак. Прачыталі маніфест аб узыйсці на трон цара Мікалая I, пасля заклікалі да прысягі. І тады злавешчы пошум прайшоў па радах салдат; ён рос, узмацняўся і, спачатку нясмелыя, адзіночныя, але праз хвіліну больш адважныя і гусцейшыя, адгукнуліся галасы пратэсту. Нехта крыкнуў: «Няхай жыве яго вялічаства Канстанцін Паўлавіч!» Сярод афіцэраў канстэрнацыя. Непрывыкшыя да непаслушэнства вочы камандзіра загарэліся гневам. Аднак трымаў ён сябе ў руках. Пачаў высняць, чаму адрокся ад трону царэвіч, чаму на трон уступае цар Мікалай I; пагражаў суровай карай за супрацьстаўленне волі манарха.

І тады перарваў яго капітан Ігельстром, паплечнік Міхала Рукевіча: «Людзі разумеюць гэтую пісаніну, але хочуць мець больш выразныя доказы яе праўдзівасці». Паступак капітана моцна падзейнічаў на войска. Не звяртала яно ўжо ўвагі на свайго камандзіра. А той, бачачы сваё паражэнне, схапіўся за апошні сродак: сам пачаў даваць прысягу, думаючы, што за яго прыкладам пойдуць афіцэры, а пасля і салдаты. Тым часам жа войска пачало разыходзіцца.

Капітан Ігельстром паехаў у Завыкі, да Рукевіча. Сястра Рукевіча, Ксавера, атрымала ад Ігельстрома нейкія паперы на перахаванне.

На трэці дзень, 26 снежня ст. ст., войска дало прысягу на вернасць цару Мікалаю I. На гэты акт прыбыў спецыяльна ў Бранск начальнік штаба Літоўскага корпуса генерал-маёр Вельямінаў.

А над Таварыствам прыяцеляў вайсковых навісла чорная хмара.

Створаная ў Беластоку следчая камісія перш за ўсё загадала арыштаваць капітана Ігельстрома, Міхала Рукевіча і іх паплечнікаў. Асаблівая ўвага звярталася на арыштаванне Ксаверы Рукевіч, сястры Міхала.

Па загаду куратара віленскай акругі Навасільцава ў Беласток на следства быў накіраваны рэктар Віленскага ўніверсітэта Пелікан, маючы багаты вопыт пасля нядаўняга філамацкага працэсу. Працэс тайных беластоцкіх таварыстваў праводзіўся дзвюма камісіямі: вайсковай і школьнай пад кіраўніцтвам Пелікана. Пелікан прывёз з сабою акты філарэцкага працэсу, якія датычыліся Міхала Рукевіча. Ён хацеў дайсці да крыніц дзейнасці Рукевіча, якія прывялі яго да ўтварэння Таварыства заран і Таварыства прыяцеляў вайсковых.

Следчая камісія, перакананая, што вялікі быў уплыў Міхала Рукевіча на ўзнікненне Таварыства заран, хацела прымусіць Фелікса Ляховіча ліквідаваць у гэтым пункце якія-кольвек сумненні. Ляховіч жа на гэтую тэму маўчаў, ён быў непарушны і сцвярджаў, што «ніхто не кіраваў ім у справе арганізацыі таварыства».

Такім чынам, удзел Рукевіча ў канспірацыйнай працы не быў дастаткова даказаны. Невядомы далейшы лёс былога філамата. Мяркуюць, што быў сасланы ён на Каўказ у якасці звычайнага радавога.

Фелікс Ляховіч быў адразу ж пасаджаны на 6 месяцаў у Бабруйскую крэпасць, а пасля сасланы на Каўказ, дзе простым салдатам змагаўся з туркамі і горцамі.

Такія былі лёсы людзей, што адказалі справай на заклік, ідучы ад прамяністай віленскай моладзі. Ім таксама, як гаварыў Герцэн аб дзекабрыстах, «не хапала народа».

*Ада Чэчуга*

## Беларускія кнігі

У Гайнаўцы ў «Доме кнігі» вул. 1-га Мая ёсць у продажы наступныя кнігі на беларускай мове:

Лось Еўдакія, *«Травіца брат-сястрыца»*, Мінск 1970, цана 1 зл. 90 гр.

Е. Лось — сучасная папулярная беларуская пісьменніца. У кнігу яе ўвайшлі апавяданні і замалёўкі. У іх асуджаецца зло і ўсхваляецца дабро, справядлівасць, вернасць. Большасць герояў кнігі — былыя партызаны, якія жывуць і дзейнічаюць у наш час.

Кнігу рэкамендуем і дарослым і моладзі.

*«Слова пра родны кут»*, Мінск, 1970, стар. 133, цана 3 зл. 10 гр.

Кніга прадстаўляе сабою збор артыкулаў сучасных беларускіх пісьменнікаў, у якіх яны са шчырым хваляваннем расказваюць аб сваім родным куце, вёсцы, мястэчку ці горадзе. Артыкулы прасякнуты гарачым пачуццём любві да тых мясцін, дзе прайшло ў пісьменнікаў іх дзяцінства і юнацтва, адкуль яны вынеслі найбольш красачныя ўспаміны.

Кнігу рэкамендуем усім любіцелям беларускай літаратуры. У школьных жа бібліятэках яна павінна стаць абавязковай пазіцыяй.

*«Ніколі не забудзем»*, Мінск, 1970, стар. 263, цана 5 зл. 10 гр.

Гэта папулярны зборнік расказаў беларускіх дзяцей аб днях Вялікай Айчыннай вайны. Расказы маюць дакументальны характар. Сабраў іх і падрыхтаваў да друку вядомы беларускі дзіцячы пісьменнік Янка Маўр, які нядаўна памёр на 88-ым годзе жыцця і які сваёй плённай творчасцю заснаваў беларускую дзіцячую літаратуру.

Зборнік рэкамендуем усім чытачам, але асабліва ён неабходны настаўнікам беларускай мовы і школьным бібліятэкам.

Журба Янка, *Вершы*, Мінск, 1970, стар. 140, цана 2 зл.

У зборнік увайшлі лепшыя вершы з літаратурнай спадчыны Я. Журбы — аднаго з заснавальнікаў беларускай літаратуры, сучасніка Я. Купалы і Я. Коласа. Вершы адрасаваны дзецям сярэдняга школьнага ўзросту, але і дарослыя чытачы знойдуць у ім шмат прыгожых твораў.

Зборнік абавязкова павінен быць у школьнай бібліятэцы.

*«Беларускія народныя песні»*, Мінск, 1970, стар. 175, цана 6 зл. 70 гр.

Гэты зборнік беларускіх народных песень выдадзен у цыкле «Бібліятэка беларускай паэзіі». Цыкл прадстаўляе сабой кніжачкі малога фармату, у цвёрдай палатнянай вокладцы. Яны вельмі зручныя ў карыстанні, можна іх нават браць у кішэню. «Беларускія народныя песні» — гэта выбраныя творы з незлічонага багацця нашых народных песень. У зборніку знайшліся тыя з іх, якія прадстаўляюць сабой бясцэнныя жамчужыны вуснай народнай паэзіі.

Зборнік рэкамендуем усім чытачам і абавязкова — школьным бібліятэкам і настаўнікам, якія вучаць беларускай мове ў класах V—VII. Папярэджваем: пры песнях няма нотаў.

## Дзяцінцы не толькі летам

У Беластоцкім павеце ў час жніва дзейнічалі 22 вясковыя дзяцінцы. Арганізаваны яны былі ў школьных будынках або ў вясковых святліцах. Дзяцьмі апекаваліся перш за ўсё настаўніцы, выхавацельніцы прадшколляў. Варта адзначыць, што ўсе дзеці мелі належны догляд. У гэтым годзе такой формай апекі карысталася 480 дзяцей. Найбольш намаганняў рабілі ў напрамку арганізавання і належнага вядзення дзяцінцаў настаўніцы Галена Канопка з Баршчэва і Францішка Серадзінская з Галовак Вялікіх. Успамянутыя настаўніцы з'яўляюцца таксама актывісткамі гурткоў вясковых гаспадынь (КГВ). Нічога тады дзіўнага, што дзяцінцы ў Баршчэве і ў Галоўках, паводле ацэнкі адказных працаўнікоў за арганізаванне вясковых дзяцінцаў Павятовага саюза сельскагаспадарчых гурткоў (ПЗГС), вяліся найлепш. З асаблівым прызнаннем расказвала мая субяседніца з ПЗКР Ірэна Радзюш аб працы ў дзяцінцы Галены Канопка, якая вядзе дзяцінец з вялікай адданасцю, арганізуе новыя формы заняткаў, м. інш. паходы, шматлікія экскурсіі і г.д.

У Новай Волі дзяцінец арганізаваны дзякуючы вялікай дапамозе з боку мясцовага сельскагаспадарчага гуртка Яна Кшэмінскага. Мясцовы сельгасгурток прызначваў таксама фінансавыя сродкі на дзяцінец.

Варта дадаць, што ў Беластоцкім павеце будуць таксама арганізаваны дзяцінцы на час капання бульбы. Ужо зараз вядома, што будуць яны ў 6 мясцовасцях: у Ялоўцы, Чорнай Всі Касцельнай, Галоўках, Новым Александрове, Юроўцах і Мастаўлянах. (яц)



*Саліст міхалоўскага мастацкага калектыву Юрка Верабей.*
*Фота Цаф — Савіцкі.*



 

## СПОРТ



*Першая рапіра Спартакіяды народаў СССР — беларуская спартсменка Галена Бялова.*

## КАТЛЕТЫ З... ПАВЕТРА

Ці нас чакае галодная смерць? Здавалася б, што гэта трохі дзіўнае пытанне, калі ў нас на Беласточчыне ў гэтым годзе ўраджай някепскі, і ў хлявах няпуста. Але гэта ў нас! На свеце ж два мільярды чалавек ужо галадае, а з кожным годам прырост насельніцтва на зямным шары павялічвае гэтую армію новымі дзесяткамі мільёнаў. І гэты факт зганяе сон з вачэй у вучоных усяго свету. Ідуць пошукі ў ствараннi ежы з невядомых рэчываў. У ЗША і Японіі паступіла ў продаж мяса, нарыхтаванае з раслін (соі), французскія вучоныя апрацавалі метад атрымоўвання спажыўнога бялка з нафты. Але гэта не ўсё. У апошні час увага вучоных прыкавана да азоту. Усім вядома, што паветра — гэты велізарны акіян матэрыі ў лятучым стане, які акружае зямны шар — складаецца ў 23,1% з кіслaрода, 1,5% са шляхетных газаў і іншых прымесяў і аж у 75,5% з азоту. «Азот» — старажытнагрэчаскае слова, у перакладзе на нашую мову абазначае «без жыцця». І сапраўды, ён не любіць злучацца з іншымі элементамі. Але карэнні некаторых раслін патрапяць гэта рабіць масава. Ужо ў 1908 годзе слаўны хімік Габер апрацаваў метад ператварэння паветранага азоту праз аміяк у азотную кіслату. Але гэта абыходзілася надта дорага. Метад не аплочваўся. І вось у 1964 годзе канадскі вучоны Ален з Таронта атрымаў аміяк з паветранага азоту даволі танным коштам з удзелам рэдкага металу рутэнія. За Аленам пайшлі іншыя вучоныя і злучэнняў з паветраным азотам з удзелам рутэнія паявілася ўжо некалькі дзесяткаў. Але рутэній — дарагі і рэдкі метал, у ежы для чалавека ён не так ужо і патрэбны. У 1968 годзе савецкія вучоныя М. Вольпін і В. Шур зрабілі наступны крок у апанаванні паветранага азоту пры дапамозе т.зв. пераходных металаў. Гэты метад і таннейшы і выгаднейшы, але і ён мае свае недахопы. Аднак гэта зусім не заахвочвае вучоных-хімікаў. Яны ўголас сцвярджаюць, што атрыманне спажыўнага бялка з паветранага азоту — справа бліжэйшых год! І тады азот («без жыцця») стане адной з асноў нашага штодзённага жыцця — ежы. Пацвердзяцца тады меркаванні вялікага рускага хіміка Д. І. Мендзялеева, які гаварыў: «Як хімік я ўпэўнены ў магчымасцях атрымаць спажыўныя рэчывы са злучэння элементаў паветра, вады і зямлі... на спецыяльных фабрыках і заводах. «Словам, свет стаіць напярэдадні новай навуковай сенсацыі, якая не дазволіць чалавецтву загінуць ад звычайнага голаду.

*Паводле савецкага часопіса «Знание-сила» № 2/71.* *(М.Г.)*

## ТУНЕЛЬ ПАД ЛА-МАНШАМ

Група экспертаў Англіі і Францыі, уважліва вывучыўшы ўсе «за» і «супраць» ідэі пракладкі тунеля пад праліваам Ла-Манш, выказалася за яе рэалізацыю. Аптымісты лічаць, што будаўніцтва тунеля намаганнямі абедзвюх краін можа пачацца ў пачатку 1973 года і закончыцца да 1978 года.

Гэты праект тунеля пад Ла-Маншам мае працяглую і цікавую гісторыю. Упершыню яго прапанаваў у 1802 годзе французскі інжынер Мацье-Фав'е. Свае планы ён выклаў імператару Напалеону. Аднак апошні быў больш заняты ваеннымі авантурамі, і тунель яго мала цікавіў. Праз год англійскі інжынер Матрэй прапанаваў пракласці тунель з суцэльных сталёвых труб гіганцкага дыяметра, але таксама не сустрэў падтрымкі.

Толькі ў 1856 годзе праект тунеля, прапанаваны Томе дэ Гамонам, атрымаў адабрэнне французскага і англійскага бакоў. У 1875—1876 гадах былі нават праведзены падводныя даследаванні па трасе тунеля, а ў ваколіцах гарадоў Кале, у мястэчку Сагат, распачалі пракладку падземнага ходу, які быў давездзен да 57,3 метра. Аднак пачатыя работы неўзабаве былі адкладзены, бо ажыццяўленне праекта на той час аказалася вельмі дарагім.

У пачатку 50-х гадоў нашага стагоддзя, з развіццём аўтатранспарту і пашырэннем тавараабмену паміж Англіяй і Францыяй выказваецца ідэя будаўніцтва моста цераз праліў Ла-Манш. Барацьба прыхільнікаў моста і тунеля ў канчатковым выніку прывяла да новай адтэрміноўкі ажыццяўлення абодвух праектаў.

Нарэшце, у 1963 годзе французскі ўрад першым парушае маўчанне і выказваецца за будаўніцтва тунеля. Праз год было падпісана сумеснае франка-англійскае пагадненне, у якім, у прыватнасці, гаварылася: «Урады Англіі і Францыі прыйшлі да згоды, што чыгуначны тунель пад Ла-Маншам з'яўляецца рэалістычным як з эканамічнага, так і з тэхнічнага пункту гледжання і яго ажыццяўленне выгадна для абодвух бакоў». У снежні мінулага года прэзідэнт Францыі Пампіду заявіў аб пажаданасці далей распрацоўваць праект.

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ШПАРАГОВАЯ ФАСОЛЬКА

З'яўляецца вельмі смачнай гароднінай. У ёй знаходзіцца шмат расліннага бялка, вапна, фосфару, жалеза, вітамінаў А. В і інш. Шпараговая фасолька не мае, як звычайная фасоля, шкоднага дзеяння, можна яе прымяняць у многіх дыетах.

Купляючы фасольку, варта выбраць найбольш маладую і далікатную, здаровую. Падрыхтоўваючы яе, трэба дакладна абпаласкаць і адрэзаць шыпулкі. Пасля гэтага можна класці яе ў гарачую ваду і варыць на вялікім агні, не прыкрываючы, мінут 20—30, дадаючы адначасова крыху солі і цукру.

Звараную фасольку можна падаваць па-рознаму:

палажыць фасольку на талерцы, дакладна асушыўшы, і паліць маслам з молатымі сухарамі (сухары падсмажваем на малой колькасці масла, пасля дадаем рэшту свежага масла і толькі распускаем яго);

звараную фасольку астудзіць, нарэзаць на невялікія кавалкі і вымяшаць з маянезам, упрыгожваючы нарэзанымі на чвэрткі памідорамі і падаючы ў якасці салата;

звараную фасольку нарэзаць на большыя кавалкі, палажыць на патэльню з разагрэтым маслам, заліць збітымі яечкамі, пасыпаць зверху цёртым галандскім (жоўтым) сырам і запячы ў духоўцы, падаваць з салатам з памідораў ці свежай папрыкі.

### ШПАРАГОВАЯ ФАСОЛЬКА НА ЗІМУ

Струкі фасолі абпаласкаць, ачысціць ад шыпулак і валокан, заліць у каструльцы гарачай вадой (на 1 літр вады трэба ўзяць 10 г. (1 дэка) солі і 20 г (2 дэкі) цукру). Вада павінна пакрываць фасольку. Варыць 3 мінуты.

Гарачую фасольку накладаць шчыльна ў слоікі-вэкі, пакідаючы 3 сантыметры ад берагоў слоіка вольнага месца. Заліць гарачым наварам, у якой адварвалася фасолька. Берагі слоікаў старанна выцерці чыстай, вываранай сцірачкай ці салфеткамі з паперы, палажыць на слоікі сухія гумкі, сухія крышкі і пружыны. Уставіць у каструлю з такой колькасцю вады, каб даходзіла яна да 3/4 вышыні слоіка. Каструлю са слоікамі падаграваць, пакуль вада не закіпіць. Кіпяціць 1 гадзіну.

Слоікі адразу ж трэба вымаць з вады, ставіць на стол, астудзіць, зняць пружыны і праверыць, ці слоікі закрыліся.

Калі вы заўважыце, што некаторыя слоікі не закрыліся, трэба выцерці насуха іх берагі, крышкі і гумкі. Слоікі ізноў закрыць. На другі дзень пастэрызаваць фасольку паўторна 40 мінут (ад моманту, калі яна закіпіць). Слоікі вынязць з каструлькі, астудзіць і зноў праверыць, ці закрыліся, калі не, то прыйдзецца іх яшчэ раз пастэрызаваць, змяняючы гумовую ушчэльку.

*Гаспадыня*



*Разбіты Нюрнберг — «горад партыйных з'ездаў».*

## 25 ГОД ТАМУ НАЗАД

# Нюрнберг

Назвы гарадоў часта пераўтвараюцца ў сімвалы, але бывае так, што гэтыя сімвалы мяняюць свой сэнс. Якія асацыяцыі выклікаў Нюрнберг у 20-я або ў пачатку 30-х гадоў нашага стагоддзя? Усе ўспаміналі аб мастаку Альбрэхце Дзюрары, аб доміку народнага паэта Ганса Сакса, аб «Нюрнбергскіх мейстэрзінгерах». Нюрнберг сімвалізаваў сабою ўтульнае нямецкае сярэднявякоўе.

Але ўжо ў пачатку 30-х гадоў з'явіліся новыя асацыяцыі. У гітлераўскім рэйху кожнаму гораду адводзілася свая асаблівая роля. Берлін — імперская сталіца; яго нават думалі пераіменаваць у «горад Германія». Мюнхен, дзе зарадзіўся нацысцкі рух, стаў «горадам руху», а Нюрнберг пераўтварыўся ў «горад партыйных з'ездаў». Менавіта тут праходзілі з'езды нацысцкай партыі. Гэта былі гігантычныя спектаклі, тэатральныя прадстаўленні, адрэпетыраваныя да найменшых дробязяў. Для іх збудавалі гігантычнае поле і пачалі будаваць палац.

Так і быў бы Нюрнберг «горадам партыйных з'ездаў» калі б не былі разбіты жудасныя планы Гітлера і яго хаўруснікаў. Прыйшоў май 1945 года; «тысячагадовая імперыя» правалілася, ад палавіны германскіх гарадоў і вёсак засталіся разваліны. Сумна выглядаў вясной 1945 года і Нюрнберг, які з узору сярэдневяковага будаўніцтва пераўтварыўся ва ўзор бамбёжкі англа-амерыканскай авіяцыі.

Па прапанове амерыканскіх акупацыйных улад менавіта Нюрнберг быў выбраны месцам, дзе павінен быў засядаць Міжнародны ваенны трыбунал па справе галоўных нямецкіх ваенных злачынцаў. У карысць такога выбару гаварылі тыя абставіны, што менавіта тут раздаваліся самыя злачынныя прамовы, якія калі-небудзь чула чалавецтва. Тут захавалася выгаднае судовае памяшканне (Палац юстыцыі) і турэмны будынак побач з ім. Урэшце, амерыканцам вельмі хацелася, каб гістарычны судовы працэс адбыўся менавіта ў іх зоне акупацыі.

Цяпер мы адчуваем асаблівую пашану да тых, хто патрапіў правесці працэс. Якую каласальную колькасць рэчавых доказаў, дакументаў, фатаграфій, кніг, кінафільмаў давялося вывучыць і асэнсаваць! Колькі сведкаў давялося апытаць да працэсу і ў часе яго! І нельга забываць, што перад тварам суддзяў сядзелі не пачынаючыя злачынцы, а мацёрыя палітыканы, умелыя дэмагогі, якія праз усё сваё жыццё спецыялізаваліся на фальсіфікацыі і хлусні. Але ўсе перашкоды былі пераадолены. Працэс быў праведзены з усёй належнай стараннасцю і дакладнасцю.

Абвінаваўцы і суддзі не пайшлі па лёгкай дарозе. Яны не абмежаваліся толькі выяўленнем сваіх эмоцый, якія, зразумела, выяўлялі нянавісць і гнеў народаў, толькі што вызваліўшыхся ад нацысцкага іга. Тады, у 1945 годзе, гэтым можна было абмежавацца, і ніхто бы не дакараў за гэта суддзяў. Але суд у Нюрнберзе быў задуманы як гістарычны акт правасуддзя і адплаты, паклікан захаваць сваё міжнародна-праўнае, палітычнае і псіхалагічнае значэнне на доўгія гады. Таму трыбунал павінен быў дзейнічаць строга па закону.

Але па якіх законах? Мы часам забываем аб тым, якая каласальная працэсуальная складанасць стаяла перад стваральнікамі трыбунала. У яго склад уваходзілі прадстаўнікі Савецкага Саюза, Злучаных Штатаў, Вялікабрытаніі і Францыі. У кожнай з краін былі свае законы, свае працэсуальныя кодэксы. Здавалася, завязваецца гордзіеў вузел.

Стваральнікі трыбунала не рассеклі, а развязалі яго. У незвычайна кароткі тэрмін яны патрапілі распрацаваць прыймальную для ўсіх працэдуру, якая была зацверджана ўрадамі чатырох дзяржаў і аказалася настолькі пераканаўчай, што была пасля ўрачыста зацверджана рашэннем Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Вядома, рознасць пунктаў погляду суддзяў ад розных краін давала сябе знаць. У прыватнасці, яна праявілася ў канцы працэсу: былі апраўданы Шахт, Фрычэ і Папен, не быў прызнаны вінаватым у здзяйсненні злачынстваў генеральны штаб вермахта. Тым не менш у Нюрнберзе ўзяло верх галоўнае — тое супольнае, што выяўляла волю народаў: сурова пакараць віноўнікаў і назаўсёды пакончыць з нацызмам.

Калі ў лістападзе 1945 года пачаў сваю працу Міжнародны трыбунал, шмат хто пытаў: як павядуць сябе падсудныя? Ці выявяць яны прыкметы раскаяння, ці адкрыюць суду тайны сваіх злачынстваў?

Здарылася так, што мне і чатыром маім савецкім калегам удалося пачуць адказ на гэтыя пытанні крыху раней, чым у лістападзе 1945 года. У пачатку

# ТРЫБУНА чытачоў

## Весткі з Крываціч

### ЧЫН

15 і 22 жніўня сяляне Крываціч грамадскім чынам праводзілі рамонт дарогі Крывацічы — Орля. Вазілі яны жвір на дарогу, а потым угрунтоўвалі паверхню. Было наладжана і пабудавана каля 200 метраў дарогі. Вартасць працы сялян складае 8000 злотых. У гэтым годзе таксама ПЗД у Бельску Падляшскім палепшыў каля 1100 метраў паверхні гэтай дарогі. Варта сказаць пра тое, што гэтая дарога будуецца больш дзесяці год і канца пабудовы (даўжыня яе 4 км і 700 метраў) не відаць. Пры сучаснай тэхніцы і магчымасцях будова дарогі ідзе «чарапашым маршам».

### ПАЖАР ЛЕСУ

Ад адломка пабітай бутэлькі загарэўся Чорны лес, які расце між Орляй і Крывацічамі. Заўважыўшы пажар, грамадзяне Крываціч пачалі яго гасіць. Дзякуючы іх ахвярнай дапамозе пажар быў пагашаны. Дапамог таксама мясцовы сельскагаспадарчы гурток, які вазіў ваду і абворваў трактарамі месца пажару.

### ПАТРЭБНЫ КАЛОДЗЕЖ

На адным з апошніх сходаў пярвічнай партыйнай арганізацыі ў Крывацічах быў прадстаўлены план будовы глыбокага калодзежа для агульнавясковых патрэб. Пасля дрэнажу крывацкіх палёў вельмі зменшыліся запасы вады, і таму такі калодзеж вельмі патрэбны. Дапамагчы пры будове абавязаўся ГРН у Орлі.

*Ваня Кірызюк*

### ПУНКТЫ СКУПКІ ПА-НОВАМУ

У бягучым годзе асаблівая ўвага звернута на паляпшэнне ўмоў працы на пунктах скупкі хатняй жывёлы, так званых «базах». Зараз яны разбудоўваюцца. Апрача таго, будуюцца тут «пачакальні» для сялян, кіёскі і магазіны са спажывецкімі артыкуламі, пункты СОП-у, рамантуюцца дарогі і пляцы і г. д. ГС-ы рыхтуюцца ўжо да асенняй скупкі жывёлы. У сувязі з павышэннем цаны за хатнюю жывёлу прадбачваецца ў гэтым годзе большая здача яе дзяржаве. У Беластоцкім ваяводстве скупачныя пункты будуць адрамантаваны і мадэрнізаваны коштам 35 мільёнаў злотых. Амаль палавіну гэтых коштаў складуць грамадскія чыны. Паасобныя ПЗГС-ы наладзяць працу сваіх пунктаў скупкі коштам наступных выдаткаў: у Беластоцкім павеце — 2802 тысячы злотых, у Бельскім павеце — 735 тысяч злотых, у Гайнаўскім павеце — 3408 тысяч злотых, у Сакольскім павеце — 2733 тысячы злотых, у Сямяціцкім павеце — 3744 тысячы злотых і ў Дуброўскім павеце — 552 тысячы злотых. (яц)

### У СТРАШАВЕ АДНОЎЛЕНА ШКОЛА

Перад пачаткам новага навучальнага года паспяхова закончыўся рамонт школы ў Страшаве, Беластоцкага павета. У страшаўскай школе адноўлены клас і памяшканне для настаўніцы, памаляваны парты, адрамантаваны дзверы, замацаваны новыя клямкі і г.д. Кошты рамонту склалі больш 8 тысяч злотых.

Новы навучальны год вучні са Страшава пачалі ў чыстым, пахучым свежай фарбай класе. • (яц)




*Дарагое Сэрцайка!*

Жыву я на Беласточчыне. У вёсцы, дзе жыве мая сваячка, адбываўся фестын БГКТ. Вось яна і запрасіла мяне на гэтую ўрачыстасць. Я паехала, але паехала адна, без мужа. (Я толькі нядаўна выйшла замуж). Было там вельмі цікава і я засталася на забаву. Так па праўдзе кажучы, дык мяне мая сваячка падгаварыла. Яна незамужняя, і ёй патрэбна была сяброўка. На забаве падыйшоў да мяне прыстойны малады хлапец і папрасіў танцаваць. Так мы і пратанцавалі з ім увесь вечар. Толік мне вельмі спадабаўся. Ён не падумаў, што я замужняя, а я яму аб гэтым не сказала. Я не нашу шлюбнага пярсцёнка на пальцы, і ён не мог нават і падумаць, што я замужняя. Ніхто мяне там не ведае, бо гэта далёка ад маёй вёскі. На канец забавы мы дагаварыліся сустрэцца ў горадзе.

Што рабіць, дарагое Сэрцайка, ці сказаць на сустрэчы, што я замужняя, ці наогул не пайсці на сустрэчу?

*Марыся*
*з Беласточчыны*

Марыся! Напэўна, не варта ісці на сустрэчу. Бо і чаго? Ты ж замужняя, а ён нежанаты. А клопатаў можаш нарабіць сабе нямала. Што ж будзе, калі вас убачыць хто-небудзь са знаёмых і дойдзе гэта да твайго мужа? Ці ты аб гэтым падумала? Зрэшты, што ж падумае аб табе Толік, калі даведаецца, што ты замужняя. І аб гэтым павінна ж ты падумаць! А па-трэцяе, дык якая ж з таго карысць для цябе? Ты маеш мужа і павінна ўжо думаць аб сваёй сям'і, а не аб хлопцах. Ужо трэба быць жонкай. Таму ў ніякім выпадку не раю сустракацца з Толікам.

*Сэрцайка*

### РОЗУМ І ПРАЦА



Пётр Лапінскі — дыспазітар КР у Навасадах.

У Гайнаўскім павеце працуе 125 сельскагаспадарчых гурткоў. З'яўляюцца яны арганізатарамі гаспадарча-грамадскага жыцця ў паасобных вёсках. Апрача гэтых, ёсць 63 далейшыя пляцоўкі (КР і МБМ), якія вядуць фінансава-гаспадарчую дзейнасць. Агульны маёнтак гэтых пляцовак складае суму 68 млн. зл. і ў адносінах да мінулага года павялічыўся на 12 млн. зл.

Цяпер КР і МБМ маюць 324 трактары, 158 абмалотачных агрэгатаў і 5 камбайнаў (у вёсках Навасады, Іванкі, Ставішчы, Курашава і Сакі). Трактары КР за першае паўгоддзе выпрацавалі ў індывідуальных сялян 120 тыс. гадзін. За першае паўгоддзе ў КР было 10.887 тыс. зл. даходаў. А людзі, якія абслугоўвалі сельскагаспадарчыя машыны, зарабілі ў гэтым перыядзе 2.313 тыс. зл.

10 КР на зямлі ПФЗ (935 гектараў) вядзе супольную гаспадарку. Зямля пераважна V і VI класаў, але вынікі задавальняючыя. Ураджайнасць вышэйшая, чым у індывідуальных гаспадароў. Агулам у гэтым годзе КР сабралі: жыта са 189,10 га, аўса з 74,23 га, пшаніцы з 8,50 га і ячменю з 5,30 га. Апрача збожжа КР вырошчваюць лубін, сырадэлю, бульбу і інш.

Найбольшыя гаспадарчыя дасягненні маюць наступныя КР: Іванкі (70,50 га збожжа), Ставішчы (66 га збожжа), Дубічы Царкоўныя (38 га збожжа), Навасады (45 га збожжа), Палічная (19 га збожжа) і Сакі (15 га збожжа).

З думкай аб развіцці калектыўнай гадоўлі КР Ставішчы загаспадаравала 130 га пасбішча, якое дагэтуль не выкарыстоўвалася.

Зямля сама радзіць не будзе, да гэтага патрэбны розум і працавітыя рукі. Да такіх належаць: камбайнер Пётр Крутэль і дыспазітар Пётр Лапінскі з КР Навасады. Вялікім ініцыятарам у працы з'яўляецца таксама старшыня КР Ставішчы Міхал Лагвінюк. Дзякуючы такім людзям КР Гайнаўшчыны дабіваюцца ўсё лепшых вынікаў.

*Віталіс Назарук*

### § Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ:

Муж мой п'яніца, усё прапівае, а на ўтрыманне дзяцей — маем двое, — не дае. Нядаўна ён выступіў з заявай аб разводзе. Пытанне:

1. Ці можа ён атрымаць развод, калі я не згаджуся?
2. Што рабіць, каб спагнаць з яго аліменты?

АДКАЗ:

Муж мог бы атрымаць развод нават без Вашай згоды, калі б ён даказаў, што наступіў поўны расклад шлюбнага жыцця, што гэты расклад паявіўся з Вашай віны і што справа Вашых непаўналетніх дзяцей не стаіць на перашкодзе разводу. Не ведаю, якія адносіны склаліся паміж вамі, але можна здагадацца, што муж Ваш мае нязначныя шанцы, калі яны ў гэтай сітуацыі наогул існуюць.

Пакуль у судзе вядзецца справа аб разводзе, асобнай справы аб аліментах на дзяцей уносіць не можна. Вы павінны злажыць да справы аб разводзе просьбу аб забеспячэнні позву, гэта значыць, прасіць суд, каб засудзіў ад мужа на час, пакуль вядзецца справа аб разводзе, грошы на ўтрыманне дзяцей. Суд абавязаны разгледзець гэткую просьбу на першым пасяджэнні.

Калі справа аб разводзе скончыцца адмовай разводу, а муж далей не будзе даваць на ўтрыманне дзяцей, можна будзе звяртацца ў суд з асобнай справай аб аліментах.

---

чэрвеня 1945 года па загаду Маршала Савецкага Саюза Георгія Канстанцінавіча Жукава невялікая група савецкіх афіцэраў накіравалася з Берліна ў маленькі гарадок Бад Мандорф (Люксембург), каб правесці допыт некаторых галоўных ваенных злачынцаў.

У невялікім пакоі на другім паверсе старамоднай гасцініцы, наспех пераўтворанай у амерыканскую ваенную турму, мы ўбачылі перад сабою райхсмаршала Вялікай германскай імперыі, галоўнакамандуючага ваенна-паветранымі сіламі, імперскага міністра авіяцыі, міністра-прэзідэнта Прусіі, прэзідэнта рэйхстага, упаўнаважанага па выкананню чатырохгадовага эканамічнага плана, імперскага лясніча і імперскага егермейстара Германа Вільгельма Герынга. Чалавек, які быў нам знаёмы раней толькі па фатаграфіях і карыкатурах, сядзеў перад намі, бяссільны схаваць перапалох. Ён нервова стукаў пальцамі па сваім калене, а калі частымі і малымі глыткамі адпіваў ваду са шклянкі, дык яго зубы стукалі аб шкло. На некалі ўвешанай дзесяткамі ордэнаў масіўнай і тлустай фігуры Герынга скромны мундзір вісеў цяпер, бы на вешалцы.

Мы ўбачылі начальніка штаба Вярхоўнага галоўнакамандавання генерал-фельдмаршала Вільгельма Кейтэля — цяпер лісліваага, але захаваўшага прускую ваенную выпраўку.

За імі допыту падвергліся начальнік штаба аператыўнага кіраўніцтва ўзброеных сіл генерал-палкоўнік Альфрэд Іодль, няўдачны «пераймальнік» Гітлера грос-адмірал Дэніц, намеснік Іодля генерал Варлімонт...

Час для іх допыту быў вельмі кароткі, мы мелі правесці толькі ўступны зандаж: устанавіць, як жа павядуць сябе тыя, хто стане перад судом. Неўзабаве стала ясна, што астаўшыеся ў жывых галавары рэйха паспрабуюць зваліць усю віну на тых, каго ўжо не было: на мёртвых і перш за ўсё на фюрэра. Аб Гітлеры ўжо можна было гаварыць усё, што хто хацеў, бо яны ведалі аб яго смерці. Герынг паспяшаўся выліць вядро памыяў на сваіх саплернікаў — Іозэфа Гебельса, Генрыха Гімлера і Марціна Бормана. Выявіўся і іншы прыём: жаданне паказаць сябе толькі бязвольнымі выканаўцамі загадаў, якія паступалі зверху. Далей, усім была ўласцівая сімуляцыя забыўчывасці і неасвядомленасці. Аказваецца, Герынг не ведаў аб плане нападзення на СССР, Кейтэль нічога не ведаў аб канцэнтрацыйных лагерах, а Дэніц наогул ніколі і ні пры якіх абставінах не цікавіўся палітыкай!

У тварах дапытваных можна было прыкмеціць нейкае падабенства: гэта быў страх, боязь справядлівай і непазбежнай адплаты. Людзі, якія на працягу дванаццаці год бяскарна вытваралі самыя жудасныя злачынствы, разумелі, што ім не ўцячы ад суда народаў. І суд прыйшоў.

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*

*ЛЕЎ БЕЗЫМЕНСКІ*

## Увага, чытачы!

**У кастрычніку адкрываем «Бібліятэчку «Нівы» новым беларускім творам. Як і папярэднія, будзе гэта высокамастацкая літаратура, якую могуць выкарыстоўваць школы ў занятках па беларускай мове, а таксама з карысцю прачытаюць і дарослыя чытачы.**

**У кастрычніку таксама пачнем друкаваць новыя матэрыялы з кулісаў другой сусветнай вайны.**

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Romanca na trąbkę" (czeski), 21—22. „Kwiecień" (polski), 23—24. „Pan Wołodyjowski" (polski), 25—26.

**Дубічы Царкоўныя**
„Ucieczka w kajdanach" (USA), „Wkrótce będzie koniec świata" (jugosł.), 22—26.

**Арэшкава**
„Znaki na drodze" (polski), „Ostatnie wakacje" (radz.), 25—26.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Drugi człowiek" (polski), „Noc poślubna" (polski), 22—26.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Янаў**
„Zakochana wiedźma" (włoski), 22—26.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Człowiek z karabinem" (radz.), 21—22. „Ambasadorowie nie mordują" (NRD), 23—24. „Pogoń za Adamem" (polski), 25—26.

**Мельнік**
„Prawdziwy koniec wielkiej wojny" (polski), 21—22. „Skąpani w ogniu" (polski), 23—24. „Południk zero" (polski), 25—26.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Kardiogram" (polski), „Dzień w którym wypłynęła ryba" (grecki), 22—26.

**Новы Двор**
„Białe słońce pustyni" (radz.), „Che/Opowieść o Guewarze" (włoski), 22—26.



**Ці Вы ўжо з'яўляецеся членамі БГКТ?**

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

